Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 340.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Серада, 13 траўня 1998 г. № 49 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Лінг едзе ў Латвію

**15—16 траўня ў латвійскім горадзе Даўгаўпілсе адбудзецца сустрэча прэм'ер-міністраў Беларусі і Латвіі Сяргея Лінга і Гунтарса Крастса.**

Плануецца падпісанне шэрагу пагадненняў, у тым ліку па сумеснай барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, дзейнасці мытняў і ахове мяжы. Прэм'еры Лінг і Крастс урачыста паставяць першы памежны слуп, што будзе сімвалічным пачаткам дэмаркацыі беларуска-латвійскай граніцы. Праграма візіту Сяргея Лінга ў Даўгаўпілс уключае таксама наведванне шэрагу мясцовых прадпрыемстваў і сустрэчу з прадпрымальнікамі.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

### Грошы – поштай

**Міністэрства сувязі разам з Нацыянальным банкам распарадзілася ўвесці новую паслугу.**

У бліжэйшы час кліенты змогуць перасылаць за мяжу долары і іншую цвёрдую валюту ў паштовых канвертах. Сума, якая перасылаецца каштоўным пісьмом, не павінна перавышаць 200 долараў ЗША. Накіраваць валюту ў канверце можна ў любую краіну свету з любога паштовага аддзялення ў Беларусі. Адпраўніцель павінен аплаціць паслугу па існуючым тарыфе (10 працэнтаў ад аб'яўленага кошту пісьма). У прысутнасці паштовага супрацоўніка кліент запаўняе квітанцыю (вопіс), дзе ўказваецца серыя, нумар, вартасць і год выпуску банкнотаў. Потым валюта кладзецца ў звычайны канверт і запячатваецца. Калі гэтае каштоўнае пісьмо губляецца пры перасылцы, то паштовае аддзяленне павінна выплаціць прынятую суму. Кліент можа пасылаць любую колькасць каштоўных пісьмаў з валютай за мяжу. Перасылаць валюту адрасатам на тэрыторыі Беларусі нельга. Акрамя таго, новая паслуга не распаўсюджваецца на расійскія рублі.

Аднак пакуль пошта не мае магчымасці праверыць сапраўднасць банкноты з-за адсутнасці спецтэхнікі, таму не спяшаецца прыступіць да выкарыстання новай паслугі. Як мяркуюць спецыялісты, перасылаць валюту ў пісьмах будуць рэдкія грамадзяне нашай краіны. Разам з тым новаўвядзенне даставіць клопатаў самім паштавікам.

Мікола ВАЙТОВІЧ

### Аддзячылі, забраўшы «золата»

**Залатыя медалі заваявала зборная каманда Беларусі па мастацкай гімнастыцы на чэмпіянаце свету, які прайшоў у іспанскім горадзе Севілья.**
**Але цікава, што нашыя спартсменкі маглі зусім не трапіць у Іспанію, бо не было грошай на білеты.**

У Севільі нашым гімнасткам найбольш пашчасціла ў такім відзе спаборніцтваў, як алімпійскае дваябор'е. Яны былі першыя. А срэбра ў гэтай дысцыпліне ўзяла зборная Іспаніі. Пікантнасць моманту заключаецца не толькі ў тым, што беларускія дзяўчаты абышлі іспанак. Звернем увагу на іншае: сваім з'яўленнем у Севільі нашыя гімнасткі абавязаныя менавіта іспанскай федэрацыі гімнастыкі, якая аплаціла транспартныя расходы «бедных беларусак». Калі б не шчодрыя іспанцы — сядзець бы нашым гімнасткам у Мінску.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

### Піянер – заўсёды першы

**На сённяшні дзень у Беларусі афіцыйна зарэгістраванае 71 маладзёжнае грамадскае аб'яднанне, у тым ліку шэсць дзіцячых арганізацыяў.**

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Аляксандр Нахаенка, найбольш шматлікім маладзёжным аб'яднаннем у краіне з'яўляецца Рэспубліканская піянерская арганізацыя, якая налічвае 134.000 членаў. За ёю ідуць Беларускі саюз моладзі — 23.000 членаў і Беларускі патрыятычны саюз моладзі, які, па словах лідэраў БПСМ, налічвае 96.000 членаў (аднак па выдадзеных на 1 траўня 1998 г. членскіх білетах колькасць членаў БПСМ складае 6.500 чалавек).

*БелаПАН*



## Дэфіцыт вярнуўся

**У крамах цяжка купіць прадукты, прычым самыя звычайныя — мяса, сыр, вараную каўбасу, курыцу... Дэфіцыт трымаецца ўжо не першы дзень.**

Учора мы абышлі некалькі сталічных крамаў, і паўсюль сітуацыя была прыкладна аднолькавая: у мясных аддзелах на паліцах ляжалі счарнелыя ад часу супавыя наборы костак, курыныя лапкі з кіпцюрамі і вэнджаныя каўбасы коштам ад 200 тысячаў рублёў і вышэй. Не было ніякіх сасісак-сардэлек. На Камароўскім рынку ў выхадныя дні можна было купіць адносна танную вараную каўбасу Барысаўскага мясакамбіната па 115 тысячаў за кілаграм. Праўда, трэба было адстаяць немалую чаргу.

Чым выкліканы дэфіцыт прадуктаў? У міністэрстве гандлю сцвярджаюць, што ніякага дэфіцыту няма, а ёсць «часовыя перабоі паставак асобных тавараў». Міністэрскі прэс-сакратар Лявонаў тлумачыць гэта тым, што скаціну нарэшце вывелі пасля зімы з хлявоў на пашу, і таму рэзка скарацілася вытворчасць мяса. Праз месяц-два, маўляў, жывёла набярэ вагі і гаспадаркі адновяць пастаўкі мяса на камбінаты ў поўным аб'ёме. Па словах прэс-сакратара, перабоі з каўбасою назіраюцца толькі ў Мінску, а ў цэлым па краіне выраб гэтай прадукцыі ў параўнанні з мінулагоднім перыядам нават узрос на 18 працэнтаў. Міністэрства гандлю працуе над ліквідацыяй перабояў, і ўжо ёсць пэўныя поспехі, сказаў Лявонаў. Напрыклад, праблему курынага мяса ўжо паспяхова вырашылі і забяспечылі народ якаснымі курынымі кумпячкамі амерыканскай вытворчасці (каштуюць гэтыя «ножкі Буша» ўсяго нейкіх 108 тысячаў рублёў).

*Мэр Мінска Ярмошын (злева) цікавіцца ў губернатара Мінскай вобласці Пётуха, ці не падкіне той прадуктаў у сталіцу.*

### Дзе прадукты?

Уся праблема ўпіраецца ў вядомы ўказ Лукашэнкі, у адпаведнасці з якім рост цэнаў на тавары не павінен перавышаць двух працэнтаў у месяц. Натуральна, гаспадаркам нявыгадна прадаваць дзяржаве мяса па заніжаных цэнах. У сваю чаргу і мясакамбінаты не хочуць выпрацоўваць танныя гатункі вараных каўбасаў, бо іхні сабекошт значна вышэйшы за тую цану, па якой гэтую каўбасу прадаюць у крамах. Прадпрыемствам значна выгадней вырабляць дарагія вэнджаныя гатункі, на якія не распаўсюджваецца прэзідэнцкія абмежаванні. Вараную каўбасу цяпер вырабляюць нешматлікія, пераважна, правінцыйныя мясакамбінаты, але і гэтая вытворчасць скарачаецца. Працаваць сабе ва ўбытак ніхто не хоча.

Па словах дырэктара аднной з мінскіх крамаў, ён кожны тыдзень накіроўвае сваіх падначаленых у Клецк, Слуцк, Барысаў і іншыя гарады, дзе яны заключаюць прамыя дагаворы з прадпрыемствамі на набыццё любімай у народзе каўбасы. Часам ім удаецца раздабыць для свайго магазіна скрыню-другую запаветнай прадукцыі, але такая прадпрымальнасць, зразумела, праблемы не вырашыць. Нават папярэдне заплаціўшы прадпрыемству грошы за тавар, крама тыднямі чакае яго прывозу. «Дэфіцыт сам па сабе не знікне, пакуль улады не здымуць з вытворцаў нікому не патрэбныя абмежаванні і не пачнуць кіравацца ў сваёй эканамічнай дзейнасці здаровымі рыначнымі прынцыпамі», — лічыць гэты дырэктар.

А тым часам пайшлі чуткі, што дзяржава рыхтуецца вярнуць савецкую картачную сістэму размеркавання тавараў першай неабходнасці. Аднак чыноўнікі з мінгандлю сцвярджаюць, што ніякіх картак на прадукты харчавання ўводзіцца не будзе. Але чуткі небеспадстаўныя. Напрыклад, у некаторых беларускіх рэгіёнах ужо лімітаваны продаж тавараў «у адны рукі».

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## Дэкрэт нічога не змяніў

Нядаўні прэзідэнцкі дэкрэт даў беларускім укладчыкам гарантыі на недатыкальнасць іхняй валюты на банкаўскіх рахунках. Цяпер людзі маюць магчымасць укладваць у банк любую суму грошай без дэкларавання. Але, як сведчаць спецыялісты банкаў, гэтыя «прывілеі» не прыцягнулі валюту. Чэргаў укладчыкаў перад банкамі няма.

### Старое і новае

Дэкрэт «Аб гарантыях захаванасці сродкаў фізічных асобаў у замежнай валюце, якія знаходзяцца на рахунках і ва ўкладах у банках Рэспублікі Беларусь» прымусіў шэраг банкаў змяніць умовы. Так, раней некаторыя банкі выплачвалі працэнты па валютных укладах рублямі, цяпер гэтую практыку даводзіцца адмяніць.

Дэкрэтам таксама прадугледжваецца, што банкі не павінны ўстанаўліваць мінімальны памер укладаў. Але на самой справе гэта не так. Завітаўшы ў некалькі аддзяленняў Беларусбанка, карэспандэнт НАВІНАЎ даведаўся, што там прымаюць сумы толькі ад 300 долараў, як і раней. Хутчэй за ўсё кіраўніцтва банка не паспела даць падначаленым неабходныя інструкцыі. Па-ранейшаму ўстанаўліваюць мінімальны памер валютных дэпазітаў і яшчэ некаторыя банкі.

### Патрэбна рэклама

Вялікія банкі не маюць асаблівай патрэбы ў грашах насельніцтва, тым больш у невялікіх укладах на пару соцень долараў. Для атрымання неблагіх прыбыткаў ім дастаткова мець у абслугоўванні дзяржаўныя (бюджэтныя) грошы.

Як паведамілі карэспандэнту НАВІНАЎ спецыялісты некалькіх вялікіх банкаў, ніякага большменш значнага прытоку валюты пасля прыняцця дэкрэта аб гарантыях не адбылося. Прыйшла зусім невялікая колькасць кліентаў — з ліку тых, хто асабліва даверае дзяржаве. А такіх, каб даверылі ды яшчэ мелі грошы, вядома ж, мала.

Адмена дэкларавання ўкладаў таксама не дала асаблівага эфекту: дзякуючы гэтаму, па словах спецыялістаў, у банкі прыйшло некалькі дзесяткаў адносна буйных кліентаў. Але яны не маюць дачынення да ценявой эканомікі, дзе, паводле ацэнак дзяржаўных экспертаў, абарочваюцца мільярды долараў. Гэтыя новыя кліенты атрымалі грошы цалкам легальна — напрыклад, ад продажу кватэры, машыны і гэтак далей.

На думку банкаўскіх работнікаў, шмат хто з патэнцыйных укладчыкаў проста не ведае аб існаванні нейкага дэкрэта з гарантыямі. І таму, гаворыць супрацоўнік буйных банкаў, калі дзяржаве так патрэбная валюта ў банках, то няхай яна лепш паклапоціцца аб рэкламнай кампаніі сваіх гарантыяў.

Што ж датычыць «неўпаўнаважаных» банкаў, дзе валютныя ўклады не атрымалі дзяржаўнай гарантыі, то яны амаль не пацярпелі ад свайго «сірочага» статусу. Рэч у тым, што ў невялікіх і сярэдніх банках, якія актыўна займаюцца прыцягненнем валюты фізічных асобаў (напрыклад, Белбалтыя, Абсалютбанк, Мінскkомплексбанк і інш.), звычайна большыя працэнтныя стаўкі, акрамя таго, яны добра рэкламуюць сябе. А вышэйшы даход з'яўляецца для ўкладчыка лепшым аргументам, чым абстрактныя дзяржаўныя гарантыі.

### Рублі патаннеюць

А вось сапраўдных зменаў у сектары валютных укладаў банкіры чакаюць з іншага боку. На мінулым тыдні Нацыянальны банк адмяніў так званыя мінімальныя працэнтныя стаўкі па рублёвых дэпазітах. Яны складалі 38% і 46% гадавых у залежнасці ад тэрміну, але некаторыя банкі прапаноўвалі і больш высокія працэнты — да 50%.

Цяпер, калі мінімальныя стаўкі адмененыя, можна чакаць скарачэння працэнтаў па рублёвых укладах — спецыялісты прагназуюць узровень 34—36% гадавых. А адсюль лагічна вынікае: публіка тым больш будзе старацца трымаць свае зберажэнні ў валюце.

Алесь САДОЎСКІ

 



# Жонка Лявонава піша...

**Жонка былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава звярнулася з адкрытым лістом да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.**

Пасланне накіраванае прэзідэнту не напрамую, а праз сродкі масавай інфармацыі невыпадкова: «*Я не веру больш у вашу справядлівасць і таму вымушаная звярнуцца да грамадскасці*», — піша Антаніна Лявонава. Яна не просіць больш аб нейкай літасці да мужа, узгадваючы той факт, што яе першы зварот да прэзідэнта меў вынікам перавод Васіля Лявонава з турмы КДБ у Жодзінскі ізалятар для крымінальнікаў — «*на перавыхаванне*».

У пасланні Антаніна Лявонава выкладае сваю версію прычынаў, якія прывялі да арышту яе мужа. «*Лявонаў дбаў пра свабоду і заможнае жыццё сялян... Пры ім на вёсцы стваральіся шматлікія недзяржаўныя прадпрыемствы, мадэллю якіх быў «Рассвет»*, — піша Антаніна Лявонава. Яна ўпэўненая, што прэзідэнт убачыў пагрозу сваёй абсалютнай уладзе з боку сельскіх рэфарматараў і таму за кратамі аказаліся і Старавойтаў, і Лявонаў. Не дараваў Лукашэнка свайму міністру і тое, што ён не вітаў метады, з дапамогай якіх атрымлівалася «перамога» на рэферэндуме 1996 года.

Не меншую цікавасць выклікаюць і ўспаміны, звязаныя з барацьбой Васіля Лявонава супраць карупцыянераў, якія кантралююць пастаўкі ў краіну пшаніцы. «*У першы ж год працы на пасадзе міністра сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў арганізаваў тэндэры на пастаўкі збожжа*, — піша ў лісце Антаніна Лявонава. — *Да гэтага 1,5 — 2 мільёны тонаў пшаніцы, якія завозіліся ў Беларусь, пастаўляліся аднымі і тымі ж пастаўшчыкамі. Калі па настаянні майго мужа правялі конкурс па прынцыпе — выйграе той, хто завозіць таннейшае збожжа, — кошты пастаў знізіліся на салідную суму. Гэта былі грошы, якія пры былым кіраўніцтве Аграпрама кл̣аліся ў кішэню. Я памятаю, колькі праверак абрынулася пасля гэтага на міністэрства сельскай гаспадаркі. Муж расказваў мне, як самыя высокія чыны з КДБ, з Савета бяспекі угаворвалі, прасілі, пагражалі — адмяніце тэндэры!*»

Напрыканцы ліста Антаніна Лявонава заяўляе прэзідэнту: «*Няма крымінальнай справы міністра Лявонава. Ёсць палітычная справа супраць чарговага грамадзяніна, які дазволіў сабе жыць і думаць чэсна і самастойна*».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Навумчык хоча ў турму

**Апазіцыянер Сяргей Навумчык, які знаходзіцца ў Злучаных Штатах у статусе палітычнага ўцекача, прапанаваў сябе заложнікам у абмен на свабоду зняволеных беларускімі ўладамі юнакоў Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца.**



У прапанове С.Навумчыка, накіраванай у адміністрацыю беларускага прэзідэнта на імя Аляксандра Лукашэнкі, гаворыцца: «Сканцэнтраваўшы ў сваіх руках абсалютную ўладу, Вы трымаеце ў турмах маладых людзей, якія сваімі ўчынкамі спрабуюць уратаваць зняважаны і растаптаны Вамі на так званым «рэферэндуме» гонар беларускай нацыі. Трымаючы за кратамі Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца, Вы паводзіце сябе як тэрарыст, які захапіў дзяцей. Калі Вам патрэбны заложнікі, то я згодны ім быць. У абмен на вызваленне Шыдлоўскага і Севярынца я гатовы адсядзець у Вашай турме замест іх. Звяртаюся да Вас з ініцыятываю абмену. Гэты абмен павінен адбыцца ў прысутнасці прадстаўніка місіі АБСЕ і аднаго з акрэдытаваных у Мінску амбасадараў любой заходняй краіны».

Гэтая прапанова, па словах Навумчыка, не мае абмежаванняў па часе. На яго думку, «захоп безабаронных людзей ва ўласных інтарэсах, палітычных ці асабістых, у цывілізаваным свеце мае адну назву — тэрарызм. І прапанова захопніку іншай асобы ў абмен на вызваленне наявных людзей не павінна ўспрымацца як прызнанне правоты гэтага захопніка».

*БелаПАН*

*Прэс-рэліз*

# КДБ вяртаецца да старой практыкі

У посткамуністычных краінах, якія сталі на шлях дэмакратычнага развіцця, маладыя грамадзяне даведваюцца пра КДБ з навучальных курсаў па гісторыі і з успамінаў бацькоў. У беларускай моладзі іншыя адносіны з камуністычным монстрам, які на Беларусі нават не змяніў сваю злавесную назву. Сябра Цэнтральнай рады і Управы Маладога Фронту Вадзім Канапацкі атрымаў позву, падпісаную следчым Марозам, з прапановай з'явіцца 11 траўня 1998 г. а 17-й гадзіне ва Упраўленне КДБ Рэспублікі Беларусь па г.Мінску і Мінскай вобласці «*для беседы*». У позве пазначана таксама, што ў выпадку «*неявки свидетеля без уважительной причины он на основании ст.67 УПК Беларуси может быть подвергнут приводу*».

Дадзеная позва па форме і сутнасці сваёй з'яўляецца антызаконным, антыканстытуцыйным дакументам, які груба парушае правы асобы. В.Канапацкі ужо неаднаразова падвяргаўся незаконным арыштам і псіхалагічнаму ўціску з боку карных органаў рэжыму. КДБ вяртаецца да старой злачыннай практыкі палітычнага вышуку і выкарыстання метадаў псіхалагічнага ўціску. Беларускі Народны Фронт будзе прымаць неабходныя захады па інфармаванні сваіх сяброў, усёй грамадскасці пра неабходнасць не паддавацца на правакацыі лукашыцкіх спецслужбаў, дзейнічаць у адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь.

*Прэс-служба Беларускага Народнага Фронту*

# Яны думаюць, што ім пашанцавала

**725 беларусаў выйгралі іміграцыйную візу ў Злучаныя Штаты.**

Дзяржаўны дэпартамент ЗША аб'явіў вынікі штогадовай латарэі па прадастаўленні 50 тысячаў візаў, што даюць права на пастаяннае жыхарства ў Амерыцы. Згодна з паведамленнем Інфармацыйнай службы ЗША *USIS*, у спісе пераможцаў у латарэі — і 725 чалавек з Беларусі. Гэта дзесятае месца ў спісе з 57 еўрапейскіх краінаў; першынствуюць у ім Украіна (5.047 пераможцаў латарэі), Албанія (4.482) і Расія (4.415). Акрамя Еўропы, гэтыя візы размяркоўваюцца яшчэ ў пяці геаграфічных рэгіёнах (Афрыка, Азія, Акіянія, Паўночная і Паўднёвая Амерыка).

Нацыянальны візавы цэнтр у Портсмуце (штат Нью-Гемпшыр) ужо разаслаў пераможцам латарэі паведамленні пра парадак атрымання іміграцкай візы. Падчас гутаркі на прадмет выдачы візы ў амбасадзе прэтэндэнты павінны прадставіць доказы наяўнасці ў іх сярэдняй адукацыі або пацвердзіць, што не менш за два гады працавалі па спецыяльнасці, якая патрабуе сярэдняй адукацыі. Невукаў амерыканцы не хочуць: сваіх хапае.

**Б.П.**

# Балоты патрабуюць рамонту

**Меліярацыя, якая ў пасляваенныя гады праводзілася ў Беларусі на плошчы ў два мільёны гектараў, каштавала больш за 10 мільярдаў долараў ЗША.**

Па словах акадэміка Івана Ліштвана, рабілася гэта непрафесійна і такое буйное ўмяшанне ў прыроду не магло не мець адмоўных наступстваў: яно прывяло да моцнай эрозіі глебы, забруджвання рэк, прыкметных кліматычных змяненняў у Еўропе і іншых парушэнняў экалагічнай раўнавагі. Цяпер распрацоўваецца дзяржаўная праграма рацыянальнага выкарыстання меліяраваных земляў на 1999-2005 гг. І.Ліштван лічыць, што яна патрабуе значнага пераасэнсавання, паколькі прадугледжвае рэканструкцыю ўсёй меліярацыйнай сеткі на плошчы 2 мільёны гектараў. Між тым, па словах вядомага навукоўца, вынікі даследаванняў у басейне ракі Ясельды і ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці даюць падставы сцвярджаць: для аднаўлення парушанага экалагічнага балансу нельга весці суцэльную рэканструкцыю меліярацыйных сістэмаў. Некаторыя меліяраваныя землі неабходна проста вывесці з сельскагаспадарчага выкарыстання.

*БелаПАН*

# С навозом все в порядке

*Но нет колбасы*

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Перечень праздников и различного рода исторических дат, которые обрушиваются на Беларусь в апреле-мае, занял бы не одну строку. А в последнее время к ним добавились новые — День государственного герба и флага и очередная годовщина референдума, который эти святыни утвердил.

«Красных дней» в календаре больше, чем изюма в пасхальном пироге, и все они разные, на любой политический вкус. Если взять только дни рождения великих злодеев ли, героев ли (кому что нравится), то можно выбирать между Хрущевым, Гитлером, Лениным и Марксом. Короче, полный набор.

Но, безусловно, в этом ряду выделяются праздники. Совершенно органично народ воспринимает Пасху, часто не обращая внимания на конфессиальные различия, — белорусские католики и православные склонны считать, что Бог один, поэтому празднуют Воскресение Христа «по-польски» и «по-русски» с одинаковым усердием. Столь же единодушно народ в качестве наиважнейшей даты воспринимает День Победы, хотя в последнее время он отмечается без показушного энтузиазма застойных и перестроечных времен.

Новообразования в виде уже названного Дня герба и флага в основном народу безразличны. Белорусская государственность (о которой точно можно сказать только одно — никто не знает, откуда она свалилась и что с ней делать) почему-то не пробуждает патриотические чувства. Тем не менее, народные массы дважды проголосовали за нее: в мае 1995 года утвердили предложенные президентом атрибуты государства, а в ноябре 1996 утвердили его самого в должности диктатора.

Но нет полной ясности и относительно позиции президента. Ясно, например, прочитывается его стремление к завоеванию абсолютной власти, и нет ясности в отношении конечной цели его политики. Будет ли он укреплять суверенитет или станет продавать его очередным «околокремлевским» мечтателям в надежде въехать в Белокаменную на белом, опять же, коне. А всякое сильное желание, что широко известно, при неопределенности целей ведет к импотенции. Поэтому наши власти такое большое внимание отдают чисто внешней стороне, стремясь хоть как-то скрыть от широкой публики факт политического бессилия.

С учетом этого понятно, что новым гербом страны мог бы стать не только старый, символизирующий поход за политическими трофеями в прошлое, но и, например, трехконечная звезда — эмблема фирмы «Мерседес». Она годится и как символ стремления власти к абсолютному господству в трех стихиях, и как показатель материализации политических дивидендов. В этом отношении, кстати, вкусы «новых белорусских» и новых белорусских политиков полностью совпадают: те и другие обладание «мерсом» рассматривают и как вожделенную цель, и как способ самоутверждения.

У народа же отношение с символикой более простое. Отдавая голоса за советские герб и флаг, публика видела за ними прежде всего дешевую колбасу. Именно этот продукт, точнее, безуспешная борьба за дешевое колбасное изобилие определяла прочность и устойчивость советской системы. Голосуя на референдуме за новую-старую символику, многие считали, что с возвратом советской атрибутики их жизнь приобретет утраченный смысл. И, как показала жизнь, они были правы. Борьба за колбасу разыгралась с удивительной силой и оказалась столь же безуспешной, как и в лучшие советские годы. Дешевой колбасы нет, пока еще есть очень дорогая, но вдруг появилось множество врагов, которые отнимают ее у трудящихся.

Все как всегда. Как-то незаметно продовольственный вопрос вновь стал идеологическим и политическим, а само продовольствие постепенно исчезает. Поэтому все надежды, как и прежде, связаны у кого с сотками, у кого с дачами. Слава Богу, в благодатной Беларуси выжить позволяет даже такое примитивное земледелие. Но нет никаких причин умиляться тому, что миллионы людей в поисках пропитания чуть ли не круглый год ковыряются в земле. Тем более, выдавать за норму, как это сделал недавно в «Народной газете» один журналист, пропев оду запаху навоза и даже назвав органику «навозиком». Может быть, навозик и в самом деле не воняет, а пахнет, но дело в том, что иногда, удобряя сотки, пользуются не только им, но и натуральным дерьмом из выгребных ям. А это такой «аромат», что голова кругом идет. И еще. По-белорусски навоз — гной. А ведь известно, что и маленький гнойничок может стать такой скулой, что ни вздохнуть, ни... Не оказаться бы в такой ситуации.



*Все как всегда...*



 

# Як я працавала ў Амерыцы

***Ужо некалькі гадоў беларускія газеты запоўнены аб'явамі з прапановамі прыбытковай працы за мяжой. Куды толькі не запрашаюць папрацаваць беларусаў і беларусак шматлікія агенцтвы па найму — і на нафтаздабываючыя платформы Нарвегіі, і ў начныя клубы Турцыі, і на палі-агароды Польшчы. Не заўсёды прапановы агенцтва адпавядаюць рэчаіснасці — ёсць выпадкі, калі нашыя даверлівыя суайчыннікі, паехаўшы на працу за мяжу, фактычна траплялі там у рабства. Але людзі свядома ідуць на рызыку — абы толькі вырвацца туды, дзе можна прыстойна зарабіць на жыццё.***

***Сёння мы прапануем вашай увазе аповяд жанчыны, якая два гады працавала ў ЗША — прыбірала ў дамах, даглядала дзяцей. Ёй пашанцавала — яна працавала там, дзе хацела, зарабіла столькі грошай, колькі хацела, і без праблемаў вярнулася дадому.***

***Знаёмцеся: Ірына, 46 гадоў, медык па адукацыі, працуе ў адным з мінскіх вучылішчаў.***

## Ад мары да рэльнасці: першы крок

Я даўно марыла паехаць працаваць у Амерыку — трэба было падзарабіць грошай. Фінансавыя справы ў сям'і ішлі не надта добра, бо нам з мужам трэба было карміць і апранаць траіх дзяцей: двух дачок-студэнтак і сынашкольніка. Ад знаёмых я чула, што некаторыя едуць на працу ў Амерыку, але гэта ўсё было настолькі няпэўна...

Вясной 1995 года я выпадкова праглядала адну рэкламную газету і ўбачыла там прыватную аб'яву: «Патрабуецца нянька ў амерыканскую сям'ю». Спачатку я падумала, што гэтая сям'я жыве недзе тут, у Мінску. Патэлефанаваўшы па ўказаным нумары, даведалася, што на самой справе аб'яву дало агенцтва, якое наймала жанчынаў на працу ў ЗША. Гаспадыня агенцтва раней сама папрацавала ў Амерыцы нянькай, а вярнуўшыся ў Беларусь, арганізавала тут бізнес, нелегальны, зразумела, бо легальна працаваць на гэтым рынку вельмі складана. Размова з гаспадыняй пераканала мяне, што я змагу ўладкавацца нянькай у ЗША.

## У Амерыку!

Агенцтва дапамагала беларусам атрымаць амерыканскую візу. Але я вырашыла як мага меней залежаць ад агенцтва і атрымала візу праз сваіх сяброўамерыканцаў. За свае грошы набыла авіябілет да Нью-Йорка. Білет даваўся браць «туды і назад», бо афіцыйна я магла прабыць у ЗША не больш за 6 месяцаў. Аднак на самой справе я збіралася застацца там на нелегальным становішчы на год, а то і болей.

У нью-йоркскім аэрапорце мяне сустрэла сястра маёй мінскай сяброўкі, якая ўжо даўно жыла ў Штатах. Яна адразу прапанавала мне працу ў самім Нью-Йорку — 200 долараў за тыдзень. Але я вырашыла ўсё ж знайсці працу праз агенцтва, хоць за гэта мусіла аддаць ім увесь мой заробак за першыя 4 тыдні.

Я адразу папярэдзіла гаспадыню агенцтва, што хачу працаваць у амерыканскай сям'і. Я, канешне, не вельмі добра ведала англійскую мову — у свой час вывучала яе ў інстытуце, потым скончыла 3-гадовыя курсы... Але ж дакладна ведала, што тыя, хто не ведаў англійскай мовы, траплялі ў сем'і эмігрантаў з былога СССР, дзе ім плацілі ў 2 разы меней.

Калі я прыехала ў Нью-Йорк, у мяне было з сабой 70 долараў. 40 долараў я адразу аддала за тое, што мяне сустрэлі ў аэрапорце. У мяне засталося 30 — і тыя хутка пайшлі на ежу.

## Першая сям'я

З працай мне пашанцавала. На наступны дзень пасля прыезду я ўжо сустрэлася са «сваёй» сям'ёй. Яны са мной паразмаўлялі (правялі «інтэрв'ю») і згадзіліся ўзяць мяне на працу — даглядаць іхняе дзіця. Потым я даведалася, што амерыканскія сем'і вельмі любяць браць на працу медыкаў і настаўнікаў з эмігрантаў. А я не проста медык, але яшчэ і педыятр па адукацыі.

Сям'я жыла ў горадзе Матаван (штат Нью-Джэрсі) — паўтары гадзіны на электрычцы ад Нью-Йорка. Бацька, Марк, валодаў фірмай, якая арганізоўвала дзіцячыя ранішнікі, святы і г.д. А ягоная жонка, Лін, працавала ў ягонай фірме ці то сакратаркай, ці то бухгалтаркай. Але калі я трапіла да іх, яна ўжо не працавала, бо была цяжарная. Марку было ўжо за сорак, а Лін — больш за трыццаць. Такая вось маладая сям'я.

У іх быў хлопчык ва ўзросце 2 гады 8 месяцаў — Марк-малодшы, і яны вось-вось чакалі яшчэ адно дзіця. Умовы ў сям'і былі вельмі добрыя. У мяне быў свой пакой з тэлевізарам, асобныя ванная, прыбіральня. Мне прапанавалі працаваць 6 дзён на тыдзень за 225 долараў. Я пагадзілася. Гэта было куды лепей, чым тое, што прапаноўвалі іншым жанчынам з агенцтва. Болей таго, пасля нараджэння другога дзіцяці мне абяцалі падвысіць заробак.

Працы было няшмат, і ўся яна была настолькі аўтаматызавана, што не складала ніякіх праблемаў. Лін напісала на паперку ўсе мае абавязкі, і я іх выконвала: мыла бялізну, прыбірала, глядзела за хлопчыкам. І увесь час, пакуль я ў іх працавала, чула толькі: «Дзякуй, Ірына».

Псіхалагічна я адчувала сабе цяжка. Перш за ўсё я не разумела сваіх гаспадароў. І потым, я добра адчувала сваю паднявольнасць, бо жыла ў чужой сям'і, у чужой краіне... Але амерыканцы — вельмі дэмакратычныя людзі і ніколі не даюць зразумець тую сацыяльную розніцу, што ёсць між вамі. Я, напрыклад, сядзела з імі за адным сталом, і вячэралі мы ўсе разам, нават калі да іх прыходзілі госці.

Першыя чатыры тыдні я працавала толькі каб аддаць доўг агенцтву. Тых грошай я і не бачыла — сям'я проста дасылала ім чэк. А калі чатыры тыдні скончыліся, я нават не змагла адразу патрапіць у Нью-Йорк, каб забраць свой пашпарт — грошай не было. Давялося чакаць яшчэ тыдзень, каб зарабіць на падарожжа. Паехала ў Нью-Йорк, ледзь не згубілася, але знайшла агенцтва, дзе мне вярнулі пашпарт без аніякіх праблемаў.

Я працавала ў гэтай сям'і два месяцы. Хутка ў іх нарадзілася дзяўчынка, але заробак мне не падвысілі. Тады я вырашыла знайсці іншую працу. Я ведала, што ў сярэднім амерыканскія сем'і плацяць нянькам, якія працуюць нелегальна, па 50—60 долараў штодня. А амерыканскія прафесійныя «бэбісітэры» ўвогуле бяруць за сваю працу каля ста долараў удзень. Я ўзяла газету, патэлефанавала ў некалькі агенцтваў (іх там процьма), і праз гадзіну ў мяне было ўжо сем-восем выгадных прапановаў. Пайшла да гаспадыні з гэтымі прапановамі і папрасіла павялічыць заробак. Але яна адмовілася. Гэтак скончылася мая першая праца ў Амерыцы.

## Бабуля, унучка, я – вось і ўся сям'я

Шукаць новую працу я вырашыла зноў праз агенцтва па найму. Знайшла яшчэ адно, такое ж, як першае, і там мне адразу прапанавалі месца ў Лонг-Айлендзе (штат Нью-Йорк). Там мне настолькі спадабалася, што ў той сям'і я працавала амаль два гады — да самага ад'езду ў Мінск. Я даглядала двухгадовую дзяўчынку Аманду. Яе гадавала адна 60-гадовая бабуля, Катрын. Вельмі актыўная бабуля: удзень яна працавала ў сваёй юрыдычнай канторы, увечары адпачывала ў рэстаране... Карацей кажучы, дома амаль не з'яўлялася. Я адна заставалася з Амандай, выхоўвала яе як хацела, ніхто мне не перашкаджаў. У Катрын я працавала пяць дзён у тыдзень і за гэта атрымлівала 300 долараў.

Катрын добра разумела, што я знаходзілася ў даволі цяжкім фінансавым становішчы, і імкнулася дапамагчы мне нейкім чынам падзарабіць. Яна параіла некалькім сваім знаёмым, каб тыя давалі мне якую-небудзь працу, а потым я нават надрукавала прыватную аб'яву ў мясцовай газеце. У асноўным я рабіла прыборку ў дамах (у свае вольныя гадзіны або ў выхадныя дні). Плацілі мне дзесяць долараў за гадзіну. Многія гаспадыні адразу ведалі, колькі трэба заплаціць, казалі, напрыклад: «У мяне дом на сем гадзінаў працы». Прыборка таксама была амаль уся аўтаматызаваная, але не такая гэта была вялікая радасць — працаваць па восемдзесяць гадзінаў у свае выхадныя дні.

З цягам часу мой «дадатковы бізнес» пашыраўся. У некаторыя тыдні я больш зарабляла падпрацоўкамі, чым асноўнай працай. Перад ад'ездам я ўжо зарабляла каля дзвюх з палавай тысячаў долараў штомесяц. Зусім не кепскі вынік, многія амерыканцы зарабляюць менш. А калі ўлічыць, што я яшчэ і падаткаў не плаціла, дык увогуле лепш не прыдумаеш.

## Жыццё па-за законам

Першыя шэсць месяцаў я пражыла даволі спакойна. А потым пачала хвалявацца: тэрмін дзеяння маёй візы скончыўся, і я аўтаматычна апынулася на нелегальным становішчы. Гэта мяне і палохала: а раптам спыніць паліцэйскі, праверыць дакументы — і вышлюць са Штатаў назаўсёды. Але потым мне патлумачылі, што з «нелегаламі» ў ЗША паліцыя сур'ёзна не ваюецца і часта глядзіць на іх скрозь пальцы. Бо, па-першае, ім хапае сваёй «сур'ёзнай» злачыннасці. А па-другое, усе яны добра разумеюць, што без нелегалаў, якія ў Амерыцы выконваюць практычна ўсю чорную некваліфікаваную працу, амерыканцы проста не змогуць існаваць. Вымруць, як дыназаўры. І я супакоілася.

Па закону амерыканскую сям'ю можна пакараць за тое, што яны бяруць людзей на працу нелегальна. Калі паліцыя выкрые такі факт, то сям'ю чакаюць вялізныя штрафы (да 100 долараў за кожную гадзіну працы «нелегала») або нават некалькі гадоў турмы. А нелегальных работнікаў адразу высылаюць з краіны. Таму калі амерыканцы пачынаюць крыўдзіць сваіх працаўнікоў альбо не плацяць ім грошы, то іх заўсёды можна «паставіць на месца» — пагроза паведаміць у паліцыю адразу прымусіць іх перагледзець сваё стаўленне да працаўнікоў.

## Час ехаць дадому

Я адпрацавала ў Амерыцы роўна 23 месяцы — з кастрычніка 1995 па верасень 1997. Я хацела зарабіць пэўную суму грошай, і як толькі зарабіла яе, пачала збірацца дадому.

Дарэчы, у ЗША я бачыла шмат нашых жанчынаў, якія проста не разумелі, навошта яны туды прыехалі. У мяне ж была канкрэтная мэта: зарабіць грошы — і вярнуцца дадому, да мужа з дзецьмі. А тыя жанчыны і працавалі ў добрых сем'ях, і грошай атрымлівалі досыць, але адразу іх растрачвалі. Я за ўвесь час, што жыла ў ЗША, нічога сабе не дазваляла, не хадзіла па рэстаранах, канцэртах і г.д. А яны і ў рэстаран хадзілі, і на экскурсіі нейкія, і «шмоткі» сабе набывалі валізамі. Але калі падыходзіў тэрмін вяртацца дадому, аказвалася, што яны не зарабілі нават на авіябілет. І яны пачыналі працаваць зноў.

Гэтая паездка была для мяне карыснай ва ўсіх планах. І грошай зарабіла столькі, колькі хацела, і на свет паглядзела, і з жыццём амерыканцаў пазнаёмілася. Ужо дома падлічыла: для таго, каб зарабіць у Беларусі столькі грошай, сколькі я зарабіла ў Амерыцы за два гады, мне спатрэбілася б працаваць лекарам роўна сорак гадоў.

## Вяртанне ў Мінск

Калі я вярнулася ў Мінск, то доўга хадзіла па вуліцах і атрымлівала эстэтычнае задавальненне ад чысціні нашага горада, ад добра апранутых людзей, ад прыгожа прычасаных і нафарбаваных жанчынаў. Калі б вы бачылі, як апранаюцца амерыканкі! У іх жа абсалютна няма густу. Яны не ведаюць, як апранацца — ходзяць у драных шортах. А якія брудныя амерыканскія вуліцы!

Але ў той жа час адчувала, што нібыта з неба зваліласа: усё, што адбывалася вакол, было для мяне, як кіно. Толькі праз чатыры месяцы я зразумела, што ўсё гэта — маё сапраўднае жыццё.

Я вярнулася на працу ў сваё вучылішча, дзе не працавала ўжо пяць гадоў. Далі мне паўтары стаўкі — атрымліваю з усімі прэміямі і надбаўкамі каля 2 мільёнаў рублёў. Такім чынам у Амерыцы я за дзень працы зараблялаў 2-2,5 раза больш, чым тут за месяц. Жывем на заробак мужа, бо са свайго заробку я магу толькі заплаціць за аэробіку, сауну і часткова за кватэру.

## Парады дасведчанай прыбіральшчыцы

Тым, хто хоча паехаць на працу ў Амерыку, мая першая рэкамендацыя — абавязкова вучыце мову. Без англійскай мовы ў Амерыцы няма чаго рабіць. Ніякай добрай працы без ведання мовы вам не прапануюць.

Прыехаўшы ўпершыню ў Амерыку, бачыш перад сабой вельмі шмат спакусаў. Таму заўсёды трэба добра ўяўляць, навошта ты сюды прыехаў. Калі зарабіць грошы — калі ласка, зарабляй іх. Шукай добрую працу і не бойся яе змяніць — некваліфікаванай працы ў ЗША на ўсіх хопіць. А кваліфікаванай там проста няма. Памятаю, у агенцтве адна жанчына пачала крычаць: «Ды я настаўніца найвышэйшай катэгорыі!..» А каго гэта там цікавіць? Там усе мы — прыбіральшчыцы, незалежна ад таго, кім былі на радзіме.

*Запісаў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Генерал без армии

## *Андрей Власов не воевал против Советского Союза*

**История Великой Отечественной войны, закрепленная в нашей памяти школьными уроками, сильно идеологизирована. Цель нынешних историков — воссоздать более или менее верную картину происшедшего и отразить ее в новых учебниках. Ведь в жертву советской исторической концепции принесены целые эпизоды военных действий: они были либо вовсе исключены из рассмотрения, либо искажены до полной неузнаваемости. Об одном из таких эпизодов, связанных с фигурой генерала Андрея Власова, рассказывает кандидат исторических наук Борис Гаврилов, старший научный сотрудник Центра военной истории Института российской истории РАН.**

Пытаясь пробиться через «долину смерти» к Ленинграду, измученные голодом бойцы советской Второй ударной армии захватили немецкие блиндажи — и обнаружили там хлеб выпечки 1938 года, герметически упакованный в целлофан. Его было достаточно лишь смочить водой и разогреть. В советских частях во время тех же боев дневной рацион на человека сократился до одного сухаря. Бойцы дрались из-за убитых лошадей, выкопанных из-под снега. Там же, в блиндажах, была минеральная вода в бутылках производства Франции. А советские солдаты, чтобы попить, топили снег, пропитанный трупной жидкостью...

## Преступные планы

В начале 1942 года Иосиф Сталин находился в прекрасном настроении. Успехи советских войск под Москвой создали у него ложное впечатление, будто немцы уже разбиты и войну можно будет окончить уже к концу года. Верховный главнокомандующий решил развить контрнаступление и, конечно, первым делом велел освободить от блокады Ленинград. Была разработана операция по разгрому немецких группировок под Ленинградом. Главной действующей силой в этой операции должна была стать Вторая ударная армия. Перед началом операции Сталин прислал маршалу Кириллу Мерецкову, командующему Волховским фронтом, в состав которого входила Вторая ударная армия, письмо от руки: *«Кирилл Афанасьевич, дело, которое поручено вам, спасение Ленинграда, — дело величайшей важности. Я надеюсь, что ваше наступление не будет разменено на отдельные удары, а выльется в один крепкий удар по врагу, одним кулаком...»* Но кулака-то не было.

Волховский фронт, конечно, превосходил противника в живой силе — в полтора раза. Но по правилам военной науки для прорыва укрепленной линии фронта требуется по крайней мере двухтрехкратное превосходство. Мало того. Волховский фронт был крайне слабо обеспечен материально. Почти не было радиостанций, остро не хватало телефонного кабеля, и аппаратов, и самих связистов. В среднем фронт располагал 0,8 боекомплекта на бойца. Против целого воздушного флота нацистского генерал-полковника Келлера Мерецков мог выставить всего 16 истребителей. У приданных фронту 16-го и 18-го артполков из резерва главного командования снарядов почти не было.

Зато был приказ товарища Сталина наступать любой ценой. Промедление было смерти подобно — для Мерецкова. Наступление — для фронта в целом. Мерецков решил наступать.

## Карьера генерала

В двадцатых числах января Вторая ударная армия вошла в коридор шириной 2-3 километра между двумя немецкими группировками. Солдаты назвали этот коридор «долиной смерти». Генерал Власов появился во главе этой армии через два месяца, 20 марта. Мерецков просто сбагрил его туда. Он не зря опасался Власова. Это был блестящий командарм.

Андрей Андреевич Власов, сын крестьянина-кустаря, церковного старосты, окончил духовное училище и два курса семинарии, затем учился в советской «единой трудовой школе» и поступил на первый курс агрономического факультета Нижегородского госуниверситета. Но гражданского высшего образования Власов получить не успел: его забрали в Красную Армию и отправили на командирские курсы.

(Продолжение на стр.4)

